# АТЛАС

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## СА СТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СЯРЭДЗІНЫ XIII ст.






## 6 КЛАС

УДК 94(476)(084.4)(075.3=161.3)
ББК 63.3(4Беи)я721
Г51

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.

## Атлас

**Вучэбны дапаможнік для 6 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання**

***Дапушчана Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь***

Атлас складзены і падрыхтаваны да друку
Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“
Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь у 2011 г.

Спецыяльны змест атласа распрацавалі:
І. А. Аўдзееў, А. В. Перзашкевіч

Навуковыя рэдактары:
П. Ф. Дзмітрачкоў, Э. М. Загарульскі

*Зняцце копій, тыражаванне і выкарыстанне ў якасці асновы
для стварэння картаграфічных выданняў дапускаецца толькі
з дазволу Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь
і РУП „Белкартаграфія“*

**ISBN 978-985-508-463-2**

© Дзяржаўны камітэт па маёмасці Рэспублікі Беларусь, 2017
© РУП „Белкартаграфія“, 2017

Дарагія сябры! Вы пачынаеце вывучэнне новага прадмета – гісторыі Беларусі. Нават самы цікавы і важны прадмет значна лягчэй вывучаць, калі побач ёсць добрыя падручнікі, дапаможнікі і даведнікі. Сярод іх даволі прыкметнае месца займае і школьны гістарычны атлас. Дадзены атлас прысвечаны гісторыі Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст. Атлас расказвае пра тое, як з'явіліся на нашай зямлі людзі, як яны жылі ў мінулыя часы, з кім сябравалі, з кім ваявалі, як выглядалі.

Кожная тэма ў атласе займае дзве старонкі і адпавядае якому-небудзь істотнаму перыяду нашай гісторыі або значнай гістарычнай з'яве. Адкрывае тэму малюнак-сімвал і тлумачальны тэкст, затым ідзе карта, прысвечаная гістарычным падзеям на Беларусі, ілюстрацыі да гэтых падзей. Суседняя старонка прысвечана падзеям ва Усходняй Еўропе, часткай якой з'яўляецца Беларусь. Таксама на гэтай старонцы размешчана стужка часу, дзе адзначаны адпаведны гістарычны перыяд.

Атлас мае ўмоўныя знакі, альбо легенду. Яны падзяляюцца на агульныя і спецыяльныя. Спецыяльныя змяшчаюцца на кожнай карце, а агульныя сустракаюцца амаль на ўсіх.

- Межы дзяржаў
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
- Сталіцы дзяржаў
- Іншыя населеныя пункты

Мы спадзяёмся, што атлас будзе для вас цікавым і карысным, а галоўнае – дапаможа вам добра ведаць гісторыю сваёй Бацькаўшчыны. Жадаем поспехаў!

## БЕЛАРУСЬ НА КАРЦЕ ЕЎРОПЫ



# КАМЕННЫ ВЕК (ЛЕДАВІКОВЫ ПЕРЫЯД). ПЕРШЫЯ ЛЮДЗІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ



Крамянёвы скрабок

Гісторыя нашай краіны пачынаецца з самых старажытных часоў, калі на тэрыторыі Беларусі з'явіліся першыя людзі. Гэта былі неандэртальцы, якія рассяліліся на тэрыторыі Еўропы не пазней за 200 тыс. гадоў таму. Сляды іх знаходжання паміж 100 і 35 тыс. гадоў таму выяўлены на паўднёвым усходзе Беларусі. Прыкладна 40–35 тыс. гадоў таму на тэрыторыі Еўропы з'явіўся чалавек сучаснага тыпу – краманьёнец. Карыстаўся ён каменнымі прыладамі працы, якія вырабляў з крэменю. Таксама выкарыстоўваліся косці здабытых падчас палявання жывёл і злоўленай рыбы. Дарэчнымі ў гаспадарцы аказаліся і расліны, якія чалавек знаходзіў побач з жыллём. Асноўным гаспадарчым заняткам людзей у той час было паляванне на паўночнага аленя, маманта і іншых жывёл.

## НАЙСТАРАЖЫТНЕЙШЫЯ ЛЮДЗІ КАМЕННАГА ВЕКУ






Чалавек каменнага веку



Прылады працы



Паселішча часоў ледавіка

**На каго палявалі ў ледавіковы перыяд**






Каля 95 тыс. гадоў таму пачалося апошняе вялікае абледзяненне. Велізарныя абшары Паўночнага паўшар'я апынуліся пад ледавіком. Жыць там было немагчыма. Але і на поўдзень ад ледавіка ўмовы жыцця былі даволі цяжкімі. Зімой тэмпература апускалася да −40°С, але падчас кароткага лета тэмпература павышалася, снег і лёд на паверхні зямлі раставалі. І тады ажывалі расліны, сюды вярталіся птушкі і жывёлы, а за імі і людзі. Акрамя палявання тагачасныя жыхары нашай Радзімы займаліся збіральніцтвам, а калі з рэчак зыходзіў лёд, — рыбалоўствам. Жылі гэтыя людзі ў буданах, якія рабілі з галін дрэў, костак і скур вялікіх жывёл, здабытых на паляванні. Меліся і іншыя пабудовы, прызначэннем якіх было ўшанаванне духаў і звышнатуральных сіл, у якія тагачасныя людзі верылі.

**Пацяпленні і пахаладанні клімату**




## ЛЕДАВІК У ЕЎРОПЕ




**Як выраблялі каменныя прылады працы**


Сколванне


Аббіванне


Завострыванне


Найстаражытнае культавае збудаванне ва Усходняй Еўропе. Рэканструкцыя

# КАМЕННЫ ВЕК (ПАСЛЯЛЕДАВІКОВЫ ПЕРЫЯД). РАССЯЛЕННЕ ЛЮДЗЕЙ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ



Гаршчок каменнага веку

Каля 10 тыс. гадоў таму ў Еўропе скончылася апошняе зледзяненне. Пачалося істотнае пацяпленне, кліматычныя ўмовы сталі больш спрыяльныя для жыцця. На Зямлі складваўся раслінны і жывёльны свет, шмат у чым падобны на сучасны. Змяненні адбываліся і ў жыцці чалавека. Расліны ўсё болей уваходзілі ў яго штодзённае жыццё. Збіральніцтва паступова выцясняла паляванне на больш сціплае месца. Павялічылася роля і рыбнай лоўлі, бо рэчкі сталі замярзаць на меншы час. Прыблізна праз 5 тыс. гадоў чалавек знайшоў яшчэ больш надзейныя крыніцы ежы. Набліжаўся час вытворчай гаспадаркі.

## ЖЫЦЦЁ ЛЮДЗЕЙ У ПАСЛЯЛЕДАВІКОВЫ ПЕРЫЯД НА БЕЛАРУСІ




Людзі каменнага веку



Стаянка (паселішча)

**Заняткі людзей**
(у працэнтах)






Прылады працы




Каля 6–5 тыс. гадоў таму на тэрыторыі Беларусі з'явіліся дасканалыя каменныя сякеры і зерняцёркі. Новыя прылады працы былі больш зручнымі і прыдатнымі. Чалавек ужо мог пабудаваць сабе драўляны дом замест будана, расцерці сабранае зерне, што было больш карысным для чалавечага страўніка. Натуральна, што роля зерня ў жыцці чалавека значна павялічылася. Людзі сталі паступова перамяшчацца туды, дзе знаходзілі ядомыя расліны, перш за ўсё збожжавыя. Узніклі аселыя паселішчы. Людзі заўважылі, што ўсё расце лепей, калі зямлю араць. Так паступова развівалася земляробства. З цягам часу таксама высветлілася, што некаторыя жывёлы ахвотна жывуць побач з чалавекам, калі ён іх гадуе. Узнікла жывёлагадоўля. Склаліся таксама і першыя рамёствы.

## ПАЧАТАК ЗЕМЛЯРОБСТВА І ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ Ў ЕЎРОПЕ




### Выраб прылад працы


Апрацоўка крэменю


Свідраванне

### Старажытныя рамёствы


Ткацтва


Ганчарства

### Расліны, якія мелі гаспадарчае значэнне


Пшаніца Жыта Ячмень Гарох Лён

### Жывёлы, якія мелі гаспадарчае значэнне


Тур Баран Дзік Каза

## ПАЧАТАК ВЕКУ МЕТАЛАЎ



Бронзавая сякера

У 5-м тысячагоддзі да н. э. у краінах Старажытнага Усходу ўзнікла вытворчасць медзі, а праз 2 тыс. гадоў і бронзы. З гэтым дасягненнем чалавецтва звязана ўзнікненне і даволі хуткае развіццё земляробства, жывёлагадоўлі, рамёстваў і гандлю. Гаспадарка стала вытворчай. Цэнтрамі бронзавай металургіі старажытнасці былі Каўказ, Пярэдняя Азія, Балканы, Індыя, Кітай. На тэрыторыю Беларусі медзь і волава траплялі з поўдня (Прыкарпацце, Каўказ), і ў 2-м тысячагоддзі да н. э. тут узнікла бронзаліцейная справа. Прыкладна ў гэты ж час на беларускіх землях пачалі распаўсюджвацца жывёлагадоўля і земляробства. Спачатку імі сталі займацца на поўдні тэрыторыі, а потым і ў больш паўночных землях.

## БРОНЗАВЫ ВЕК НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ




Людзі бронзавага веку



Паселішча

**Заняткі людзей**
(у працэнтах)






Прылады працы




Яшчэ ў канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. у Еўропе і Азіі пачалося значнае перасяленне народаў. Яно ўвайшло ў гісторыю як расселенне індаеўрапейцаў. У стэпах паміж Дунаем і Волгай індаеўрапейцы першымі ў гісторыі чалавецтва прыручылі каня і пачалі выкарыстоўваць яго як цяглавую сілу. З індаеўрапейцамі ж, верагодна, звязана і развіццё меднай і бронзавай металургіі ў Еўропе. Са старажытных сталых насельнікаў Беларусі да індаеўрапейцаў належалі балты і славяне. Але і некаторыя іншыя індаеўрапейскія народы пакінулі свае сляды на тэрыторыі Беларусі. Так, назвы некаторых рэчак, напрыклад, Дняпро і Бярэзіна, далі прадстаўнікі старажытных іранцаў, а некаторыя беларускія словы, як „хата“, былі запазычаны ў германцаў.

## РАССЯЛЕННЕ ІНДАЕЎРАПЕЙЦАЎ




### Здабыча меднай руды на Балканах



Рудныя жылы абпальвалі агнём і аблівалі халоднай вадой. Калі парода трэскалася, з яе высякалі глыбы

Руду збіралі ў кашы і выносілі на паверхню

Там глыбы драбіліся, затым руду аддзялялі ад пустой пароды

### Выплаўка медзі



У печ засыпалі медную руду і драўняны вугаль, скураным мехам раздзімалі агонь

Расплаўленая медзь асядала на дне печы. Адтуль яе залівалі ў земляныя формы

Медзь у форме застывала, а тое, што заставалася ў печы, выкідвалі

# ДАСЛАВЯНСКАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ



Балцкае ўпрыгожанне

Не пазней за 2-е тысячагоддзе да н. э. у Малой Азіі людзі навучыліся атрымліваць жалеза. Менавіта яму на пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э. наканавана было стаць галоўным матэрыялам для вырабу асноўных прылад працы земляробаў і зброі для воінаў. З гэтага часу прынята весці адлік жалезнага веку. На тэрыторыі Беларусі апрацоўка жалеза таксама пачалася ў 1-м тысячагоддзі да н. э. Станаўленне тутэйшай металургіі жалеза звычайна звязваюць з плямёнамі балтаў. Да канца 1-га тысячагоддзя да н. э. старажытныя балты засялілі ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі.

## БАЛТЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ




Людзі жалезнага веку

Прылады працы






Жытло жалезнага веку (паўзямлянка)



Паселішча жалезнага веку




Старажытныя балты пакінулі нам значную спадчыну. Гэта і назвы рэк і азёр, як Нёман, Вілія і Нарач, і некаторыя словы сучаснай беларускай мовы, як „дрыгва“ і „багна“, а таксама шматлікія казкі і міфы. Дастаткова ўспомніць хаця б дагэтуль вядомыя па ўсёй Беларусі чароўныя камяні, якія маюць бясспрэчна балцкае імя „сцёп-камяні“. Відавочна балцкая прысутнасць таксама і ў паданнях пра чароўных вужак, пра магутных волатаў, пахаваных у вялізных курганах, пра заклятае дрэва-куліну, пра дудароў-цудадзеяў, пра ведуноў з адмыслова загнутымі кіямі. Усё гэта складае сапраўдны скарб нашай беларускай культуры. З балтамі звязаны і першыя дасягненні ў галіне меднай і жалезнай металургіі на беларускіх землях.

## РАССЯЛЕННЕ СТАРАЖЫТНЫХ БАЛТАЎ У ЕЎРОПЕ




**Як здабывалі жалеза**

Лес seклі на дровы

Дровы складалі ў вогнішча

Вогнішча спальвалі з абмежаваным доступам паветра і атрымлівалі драўняны вугаль

Вугаль і жалезную руду засыпалі ў печ, скуранымі мяхамі раздзімалі агонь

У печы кавалкі руды спякаліся, утвараючы порыстую масу – крыцу

Далей крычнае жалеза апрацоўваў каваль



## БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ ў VI–VIII стст.



Арнамент старажыт-нага ручніка

Славяне прыйшлі на тэрыторыю Беларусі ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н. э. і пачалі сяліцца на поўдзень ад ракі Прыпяць. На поўнач ад іх жылі балцкія плямёны. У славян былі развіты ворыўнае земляробства і жывёлагадоўля. Як і балты, яны добра ведалі апрацоўку металаў. Асноўным будаўнічым матэрыялам было дрэва. Новыя насельнікі беларускіх зямель былі язычнікамі. Яны верылі ў існаванне шматлікіх багоў і замагільнага жыцця, адушаўлялі сілы прыроды і пакланяліся ім. Багоў баяліся, прасілі аб дапамозе, а таксама дзякавалі з нагоды якой-небудзь удачы. Для ўшанавання багоў славяне будавалі свяцілішчы, альбо капішчы, выраблялі фігуркі ідалаў.

## ПЕРШЫЯ СЛАВЯНЕ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ






Паўзямлянка



Хата



Славянскае паселішча




Старажытныя славяне пачалі рассяляцца ў Еўропе падчас Вялікага перасялення народаў. Ішло яно вельмі хутка, і ўжо ў VI ст. н. э. славяне з'яўляліся значнай сілай і для візантыйскіх грэкаў, і для германцаў. Заняўшы велізарныя абшары паміж Дунаем, Эльбай і Дняпром, славяне ўтварылі тры вялікія саюзы плямён — заходнія, паўднёвыя і ўсходнія. Так склаўся славянскі свет, што аб'яднаў землі, вядомыя раней толькі дзякуючы гандлёваму вялікаму „бурштынаваму шляху". Аднак хутка ўжо самім славянам прыйшлося сутыкнуцца з навалай качэўнікаў. З-за Волгі з Вялікага стэпу прыйшлі булгары і авары. Яны раз'ядналі славянскі свет і нават на нейкі час прымусілі славян плаціць даніну. З таго часу Вялікі стэп на наступныя тысячу год будзе крыніцай небяспекі і неспакою славянскаму свету.

## РАССЯЛЕННЕ СЛАВЯН У ЕЎРОПЕ






Перасяленне плямені

**Як будавалі пахавальны курган**




1 – уласна пахаванне
2 – насып над пахаваннем
3 – канчатковы насып кургана



Старажытнае капішча

## БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў VIII–IX стст.



Абрадавыя рагі

У другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. асобныя славянскія плямёны аб'ядналіся ў буйныя саюзы. Так на тэрыторыі Беларусі заснаваліся саюзы дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў. Напрыканцы X ст. славяне хутка рассяліліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Яны жылі тут побач са старажытным балцкім насельніцтвам і паступова змешваліся з ім. Славяне прынеслі з сабой высокаразвітое земляробства. Асноўнай прыладай апрацоўкі зямлі была саха. Ураджай жалі сярпамі. Муку рабілі на каменных жорнах. У лясной мясцовасці яшчэ захоўвала сваё значэнне і падсечна-агнявое земляробства. Развіццё земляробства вяло да росту дабрабыту. Неўзабаве племянная знаць стала больш заможнай за простых абшчыннікаў.

## САЮЗЫ ПЛЯМЁН НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ






Сядзіба старэйшыны



Сядзіба князя



Гарадзішча




Ва Усходняй Еўропе ўсходнія славяне былі не адзінымі насельнікамі. Побач з імі жылі балты, фіна-угры, хазары, заходнія і паўднёвыя славяне. Наведвалі ўсходніх славян і больш далёкія госці: нарманы, альбо варагі, візантыйскія грэкі, альбо рамеі, арабскія і персідскія купцы і вандроўнікі. З цягам часу ва Усходняй Еўропе ўзнікаюць і першыя славянскія гарады: заходнія славяне заснавалі Велеград, паўднёвыя — Праслаў. Утварыліся і першыя славянскія дзяржавы. Але не яны былі прыкладам для ўсходнееўрапейцаў. Па-ранейшаму магутнейшай, багацейшай і найпрыгажэйшай была Усходняя Рымская імперыя, альбо Візантыя. Яе сталіца Канстанцінопаль, вядомая таксама як Царград, была ўзорам для ўсіх гарадоў. Менавіта ў Канстанцінопаль вялі тады ўсе найбольш значныя для Еўропы гандлёвыя шляхі, у тым ліку Вялікі шаўковы шлях і марскі шлях у Іерусалім.

## УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ САЮЗЫ ПЛЯМЁН І ІХ СУСЕДЗІ






Прыбыццё варагаў



Сяляне

Каваль





Пралля

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ ў X–XI стст.



Пячатка князя Ізяслава

У канцы 1-га тысячагоддзя н. э. усходнія славяне аб'ядналіся ў вялікую і магутную Старажытнарускую дзяржаву. З'явіліся першыя гарады. Не была выключэннем і тэрыторыя сучаснай Беларусі. На землях крывічоў узнік Полацк, дрыгавічы заснавалі Тураў. Узмацнілася і вайсковая ўлада. Князі кіравалі пажыццёва, а затым іх улада пераходзіла да брата ці сына. Сам князь жыў у галоўным горадзе – сталіцы княства. Каб лепей было забяспечваць абарону насельніцтва і падуладных зямель ад ворагаў, а таксама лягчэй і хутчэй збіраць даніну, князі засноўвалі новыя гарады. Так на беларускіх землях з'явіліся Віцебск, Мінск, Пінск, Брэст, Гродна і іншыя гарады. Паступова яны станавіліся не толькі адміністрацыйнымі і ваеннымі цэнтрамі, а і месцамі сканцэнтравання рамёстваў і гандлю.

## ПЕРШЫЯ КНЯСТВЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ






Старажытны Полацк



Старажытны Тураў



Старажытны Мінск




Княствы сталі першымі дзяржавамі ўсходніх славян. Кожны князь меў уласных ваяроў — дружыну. За тое, што князі кіравалі справамі сваіх племянных саюзаў і абаранялі мірнае насельніцтва ад ворагаў, яны атрымлівалі даніну — ежу, адзенне, зброю. Збор даніны зваўся палюддзе. Найбольш магутным з князёў быў кіеўскі. Ён меў тытул вялікага князя і павінен быў змагацца супраць знешніх ворагаў і вырашаць спрэчкі паміж князямі. Кіеўскія князі хадзілі нават на Канстанцінопаль. Найбольшую небяспеку для ўсходніх славян складалі хазары і волжскія булгары. Іх ваяры-вершнікі рабавалі мірнае насельніцтва і ўводзілі ў палон у Ітыль і Булгар. Там палонныя станавіліся рабамі хазарскіх і булгарскіх князёў, або іх прадавалі персам і арабам. Вялікі князь Святаслаў ушчэнт разбіў хазараў і спыніў булгар на іх уласных межах. У IX–X стст. на землях усходніх славян узнікла Старажытнаруская дзяржава.

## СТАРАЖЫТНАЯ РУСЬ





Веча ў сярэдневяковым горадзе


Старажытнарускія ваяры

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ ў XII – першай палове XIII ст.



Знак княжацкай улады

Напачатку 2-га тысячагоддзя н. э. найбольш буйнымі і магутнымі гарадамі на беларускіх землях былі княжацкія сталіцы Полацк і Тураў. Каб пазначыць і замацаваць свае ўладанні, іх князі ставілі ў розных месцах адметныя знакі – камяні. Некаторыя іншыя гарады ўжо таксама маглі забяспечыць сваё насельніцтва ўсім неабходным і самастойна трымаць абарону ад ворага без дапамогі сталіцы. Каб утрымаць самастойныя гарады ад намаганняў вызваліцца з-пад княжацкай улады, князі часта накіроўвалі туды сваіх сыноў або малодшых братоў і ўтваралі княствы-воласці. Княства-воласць – гэта падуладны малодшаму князю горад з наваколлем. Паступова воласці страчвалі залежнасць ад сталіц і станавіліся самастойнымі, хаця і лічылі сябе падданымі сталічнага князя.

## РАЗДРОБЛЕНАСЦЬ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ










Княжацкая ўлада
Царкоўная ўлада
Улада гараджан




Кожны князь марыў уладарыць над як мага большай тэрыторыяй. Князі вельмі часта былі даволі блізкімі сваякамі, альбо нават братамі, але войны паміж імі за ўладанні былі звычайнай справай. Такія войны завуцца ўсобіцамі. Толькі падчас паходаў супраць булгар, значнай пагрозы з боку печанегаў ці полаўцаў, усобіцы часцей за ўсё спыняліся, але хутка зноў аднаўляліся. І толькі калі князі ўжо не маглі працягваць вайну з-за значных страт, яны сустракаліся і вялі мірныя перамовы. Вялікі князь, які ўладарыў у Кіеве, лічыўся вярхоўным гаспадаром усіх усходнеславянскіх зямель і павінен быў абараняць мір. Вялікі князь рабіў гэта часцей за ўсё з дапамогай зброі. У сярэдзіне XII ст. колішняя магутнасць уладароў Кіева пахіснулася, паступова адзінства ўсходнеславянскіх зямель было страчана.

## РАЗДРОБЛЕНАСЦЬ РУСІ






Перамовы князёў



Вялікія князь і княгіня



Малодшыя князь і княгіня

# ХРЫСЦІЯНСКАЯ ЦАРКВА І КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ у XI – першай палове XIII ст.



Крыж Ефрасінні Полацкай

Найбуйнейшай падзеяй у гісторыі Старажытнай Русі было ўвядзенне напрыканцы X ст. хрысціянства. Новая рэлігія лепш, чым язычніцтва, адпавядала патрабаванням таго часу. Яна аказала вялікую падтрымку кіеўскаму князю ў яго барацьбе за ўмацаванне адзінства краіны. Царква актыўна выступала супраць перажыткаў язычніцтва і мясцовых жрацоў. Распаўсюджанне адзінай рэлігіі і пісьменнасці садзейнічала згладжванню мясцовых асаблівасцей у культуры і мове. Старажытнаруская дзяржава набыла вялікі аўтарытэт на міжнароднай арэне. Яна станавілася на адзін узровень з іншымі хрысціянскімі краінамі. У канцы X – пачатку XI ст. узніклі епархіі ў Полацку і Тураве. У Полацку па ўзору галоўнага храма Канстанцінопаля быў пабудаваны Сафійскі сабор. Мураваныя (каменныя) цэрквы з'явіліся і ў іншых гарадах на тэрыторыі Беларусі.

## ХРЫСЦІЯНСТВА НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ






Сафійскі сабор (г. Полацк)



Храм Спаса (г. Полацк)



Барысаглебская царква (г. Гродна)




Распаўсюджанне хрысціянства ва Усходняй Еўропе не было вельмі хуткім і лёгкім для яго прыхільнікаў. Язычнікі не жадалі кідаць сваёй веры і прымаць новую, тым больш на невядомай мове. Нават не ўсе знатныя сем'і мелі перакладчыкаў з грэчаскай ці лацінскай. А простых люд зусім не разумеў ні грэкаў, ні лацінян. Акрамя таго, хрысціяне патрабавалі адмаўлення ад старажытных язычніцкіх святаў, багоў і боствстваў, што выклікала найбольшае супраціўленне. Зусім не спрыяла хрысціянству і тое, што ў 1054 г. хрысціянская царква сама раскалолася на ўсходнюю — праваслаўную і заходнюю — каталіцкую. Тым не менш ва Усходняй Еўропе хрысціянства зацвердзілася і перамагло язычніцтва. Адбылося гэта дзякуючы намаганням магутных гаспадароў, самаадданых прапаведнікаў, асветнікаў і кніжнікаў, таленавітых мастакоў і іканапісцаў. З'явілася і новая мова богаслужэння – стараславянская.

## ХРЫСЦІЯНСТВА ВА УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ





Хрысціяне і язычнікі


Мазаічная выява


Старажытнае Евангелле


Абраз

**ЗМЕСТ**

Вучэбнае выданне

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.

## Атлас

**Вучэбны дапаможнік для 6 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання**

Рэдактар Г. С. Малышава
Тэхнічны рэдактар Н. М. Шэвель

Падпісана да друку 17.07.2017. Фармат паперы 62x92 1/8.
Папера афсетная. Друк. арк. 2,5. Умоўн. друк. арк. 2,64.
Тыраж 5 000 экз. Заказ № 1926.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства „Белкартаграфія“.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/30 ад 19.08.2013, № 3/1450 ад 14.04.2017.
Пр. Машэрава, 17 А, 220029, Мінск.
Тэл./факс: (017)284-71-59, 334-81-54.
E-mail: belkartograf@yandex.by
www.belkarta.by
www.белкартография.бел

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства „Выдавецтва „Беларускі Дом друку“.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/102 ад 01.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск.

